## У ранейшым нумары:

**Пітар Паркер сутыкаецца з Зялёным Гоблінам у ягоным логаве...**







ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І АФАРМЛЕННЕ COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY TWITTER.COM/COMICSBY






УУЧААХ!


МФФ... БОЖА! УФФФ!


О, БОЖА!
ШТО МНЕ ЦЯПЕР РАБІЦЬ?

За дванаццаць хвілін да гэтага...







ТАТА, УСЁ ГАТОВА!
ПАЧАКАЙ, ГАРЫ!


АХ, БЕДНЫ ГАРЫ. ЯГО АКАЛЯЮЦЬ АДНЫ ЗВЫШЛЮДЗІ, А ЁН НАВАТ НЕ ПАДАЗРАЕ АБ ГЭТЫМ!
ЁН НЕ ВЕДАЕ ПРА ТОЕ, ХТО ПОБАЧ З ІМ...


ЖАБРАК. ЁН ПАДОБНЫ НА СВАЮ МАМАШУ... ЯКАЯ ЗАЎСЁДЫ ХАВАЛА ГАЛАВУ Ў ПЯСОК.
ЯНА ТАК ЗАСЦЕРАГАЛА СВАЁ ЖЫЦЦЁ, ШТО Ў ЯЕ І ЖЫЦЦЯ-ТА НЕ БЫЛО.


АДНАК ГЭТА НЕДАКЛАДНАЕ ПАРАЎНАННЕ.
ЯГО МАЦІ ХАПАЛА БУТЭЛЬКІ ВІСКІ, КАБ АДПРАВІЦЦА Ў СВЕТ МРОЙ...
...А НА ГІПНОЗ ДЛЯ ГАРЫ ПРЫЙШЛОСЯ РАСКАШЭЛІЦЦА.


ЧАС, ПРАВЕДЗЕНЫ Ў ГАРАХ КАЛАРАДА З НАШЫМ ДОБРЫМ ДОКТАРАМ УОРЭНАМ, ПАЙШОЎ НА КАРЫСЦЬ - ГАРЫ СХАВАЎ УСЕ СВАЕ ЖЫЦЦЁВЫЯ НЯЎДАЧЫ Ў МАЛЕНЬКУЮ СКРЫНЮ...
...І СХАВАЎ ЯЕ ПАДАЛЕЙ... КАБ ЗАБЫЦЬ КАНЧАТКОВА.


ВЕДАЕШ, ХЛОПЕЦ САПРАЎДЫ ЗМЯНІЎСЯ.
Я НЕ ЗАДАРМА ПАТРАЦІЎ ГРОШЫ.
ПАРА ГІПНАТЫЧНЫХ СЕАНСАЎ ПРЫГНЕЧАННЯ ПАМЯЦІ... І Я АТРЫМАЎ СЫНА, ЯКОГА НЕ СОРАМНА ПАКАЗАЦЬ ЛЮДЗЯМ.
ПРАБАЧ...




НА ЧЫМ Я СПЫНІЎСЯ?
НУ КАНЕШНЕ, ГАРЫ.


НЕ, ГАРЫ НЕ ВЕДАЕ ПРА ТОЕ, ШТО ЯГО БАЦЬКА ПАДНЯЎСЯ НА НАСТУПНЫ ПРЫСТУПАК ЭВАЛЮЦЫІ ЧАЛАВЕКА...
АЛЬБО ПРА ТОЕ, ШТО ЯГО ЛЕПШЫ СЯБАР БЫЎ ЧАЛА-ВЕКАМ-ПАВУКОМ.
НЕ.
ПА-КУЛЬ НЕ.


МАГЧЫМА, АДНОЙЧЫ, КАЛІ ЁН БУДЗЕ ГАТОВЫ... КАЛІ Я АДЧУЮ, ШТО ХЛОПЧЫК ГАТОВЫ ПАДЗЯЛІЦЬ ЛЁС ОЗБАРНАЎ.
АЛЕ ПАКУЛЬ ГЭТА НАШ МАЛЕНЬКІ САКРЭТ. НАША МУЖСКАЯ ДАМОВА, САМАЯ ПЕРШАЯ.
ТААААТА!
БО З ГЭТАГА ДНЯ І НАЗАЎЖДЫ ТЫ НАЛЕЖЫШ МНЕ.
ТЫ БУДЗЕШ ПРАЦАВАЦЬ НА МЯНЕ, РАБІЦЬ УСЁ, ШТО Я СКА-ЖУ. ЗА ГЭТА ТЫ АТРЫМА-ЕШ УЗНАГАРОДУ.
ТВАЯ БУДУЧЫНЯ БУДЗЕ ВЫДАТНАЙ, ГОДНАЙ ТВАЙГО АДОРАНАГА РОЗУМУ І ТВАЁЙ СІЛЫ.


ТЫ МОЖАШ НЕ ЗГАДЖАЦ-ЦА З НЕКАТОРЫМІ РЭЧАМІ, ЯКІЯ ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА РАБІЦЬ...
...НЕ РАЗУМЕЦЬ РАШЭННЯЎ, ЯКІЯ Я БУДУ ПРЫМАЦЬ.
АЛЕ НАВАТ КАЛІ ТАБЕ СТАНУЦЬ НЕ ДА СПАДОБЫ МАЕ ГРАН-ДЫЁЗНЫЯ ПЛАНЫ, ТЫ БУДЗЕШ ПАДПАРАД-КОЎВАЦЦА МНЕ.
БО КАЛІ ТЫ ГЭТА НЕ ЗРОБІШ... ТАДЫ...


ТАДЫ Я СТАНУ КА-ТАВАЦЬ І, МАГЧЫМА, ЗАБ'Ю ТВАЮ МІЛУЮ ЦЁ-ТУХНУ... НЕ ВЫКЛЮЧАЮ, ШТО Ў ЦЯБЕ НА ВАЧАХ.
А МАГЧЫМА, Я ЗНІШЧУ ТВАЮ СЯБРОЎКУ.
МЭРЫ ДЖЭЙН, ЗДАЕЦЦА?




А ПОТЫМ Я ДЗЕЛЯ СВАЙГО ЗАДАВАЛЬНЕННЯ ПАБ'Ю ЦЯБЕ ДА ПАЎСМЕРЦІ.
НЕ ДА СМЕРЦІ... АЛЕ БЛІЗГА ДА ТАГО.

Я ДАМ ТАБЕ ШАНС АЧУНЯЦЬ.
Я ПАГЛЯДЖУ, ЯК ТЫ БУДЗЕШ ПАКУТАВАЦЬ АД ПЕРАЛОМАЎ І РАНАЎ.
ЦАЛКАМ МАГЧЫМА, ШТО ТЫ ВЫЛЕЧЫШСЯ.
І ВОСЬ ТАДЫ, КАЛІ ТЫ АДЧУЕШ, ШТО ЗНОЎ СТАНОВІШСЯ ЧАЛАВЕКАМ...

...Я ЗАБ'Ю ЦЯБЕ.
ТАТ!

МЫ ЖА РАЗУМЕЕМ АДЗІН АДНАГО?



ДОБРА. ТАДЫ ПАЙШЛІ.


NBC
ПРЫЕМНАГА ПРАГЛЯДУ, МАЛЯНЯ.


ГЭТА ЭПАХАЛЬНАЯ РЭЧ.
ЯНЫ ДАСЛАЛІ КОПІЮ ЗАГАДЗЯ. ЭФІР БУДЗЕ Ў ПЯТНІЦУ ЎВЕЧАРЫ, АЛЕ ВЫ ЎБАЧЫЦЕ ГЭТА ПЕРШЫМІ.
О, ТАБЕ СПАДАБАЕЦЦА, ПІТАР.
Я ПОТЫМ РАСКАЖУ ТАБЕ ПАДРАБЯЗНЕЙ ПРА «ПАДАРОЖЖА ОЗБАРНАЎ».
ТАТ, ЧАМУ ТЫ Ў ХАЛАЦЕ?
Я БЫЎ У САЎНЕ.


ЗРАЗУМЕЛА.
НУ, УСЕ ГАТОВЫ?
ГЭТА МОЙ ДЭБЮТ НА ТЭЛЕБАЧАННІ.
ТАКОЕ ВІДОВІШЧА - ВАЧЭЙ НЕ АДАРВАЦЬ.


СЁННЯ Я ПАВЯДУ ВАС У ДЗІЎНАЕ ПАДАРОЖЖА ПА «ОЗБАРН ІНДАСТРЫЗ».
DATELIN
УСЕ, ХТО ЧЫТАЕ ФІНАНСАВЫЯ СПРАВАЗДАЧЫ Ў СУЧАСНЫХ ГАЗЕТАХ, ВЕДАЕ ПРА НОРМАНА ОЗБАРНА.


ЁН ЗРАБІЎ ФУРОР У ГАЛІНЕ КАМЕРЦЫЙНАГА БІОІНЖЫНІРЫНГА СЕРЫЯЙ ЗНАЧНЫХ АДКРЫЦЦЯЎ, ЯКІЯ ПРАСУНУЛІ ЯГО КАМПАНІЮ НА ВЯДУЧЫЯ ПАЗІЦЫІ Ў НАВУЦЫ НАСТУПНАГА ПАКАЛЕННЯ.
КУЛЬМІНАЦЫЯЙ СТАЛА ВЫНАХОДНІЦТВА ОЗ.
САМАГА НОВАГА ПРАДУКТА, ЯКІ ЗРАБІЎ БЫ ЎРАГАН НА ФОНДАВЫМ РЫНКУ.


ПРЫМЯНЕННЕ ГЭТАГА ПРАДУКТА ТРЫМАЛАСЯ Ў ТАЙНЕ, АЛЕ ЁН МОГ ПРЫНЕСЦІ ВЯЛІКІ ПРЫБЫТАК ЛЮБОМУ, ХТО ВАЛОДАЎ ІМ.
«ОЗКОРП» СТАЎ ЛІДЭРАМ.

УСЁ ЗМЯНІЛАСЯ Ў МІНУЛЫМ ЛІСТАПАДЗЕ...

У ТОЙ ДЗЕНЬ, КАЛІ ПАД ЧАС НЯШЧАСНАГА ВЫПАДКУ БЫЛО ЗНІШЧАНА АДНО З ГАЛОЎНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ «ОЗКОРП». ЗАГІНУЛІ ДЗЯСЯТКІ СУПРАЦОЎНІКАЎ, І, МАГЧЫМА, САМ НОРМАН ОЗБАРНЮ.

ЛЁС НОРМА-НА ОЗБАРНА І ЯГО АПОШНЯГА ВЫНАХОДНІЦТВА ТАКСАМА ЗАСТАЛІСЯ ТАЯМНІЦАЙ.

ШТО ТАКОЕ ОЗ? ДЛЯ ЧАГО ЁН ПАТРЭБНЫ?

ЦІ ПРАЎДАЙ БЫЛІ ПАВЕДАМЛЕННІ ПРА СМЕРЦЬ НОРМАНА ОЗБАРНА?

ГЭТЫЯ ПЫТАННІ ЗАСТАЛІСЯ БЕЗ АДКАЗАЎ. ЗОРКА ОЗБАРНА ЗНІКЛА ГЭТАК ЖА ХУТКА, ЯК І З'ЯВІЛАСЯ.

АДНАК ЦІ САПРАЎДЫ ОЗБАРН ЗАГІНУЎ? ЦІ НЕ БЫЛО ЯГО ЗНІКНЕННЕ ЗАПЛА-НАВАНЫМ?




БЫЛО МНОСТВА ЧУТАК, АЛЕ АДКАЗ ТАК І НЕ БЫЎ ЗНОЙДЗЕНЫ...
І ДЛЯ ЧАГО?
...ДА СЁННЯШНЯГА ВЕЧАРА.
СЁННЯ, УПЕРШЫНЮ ЗА ГЭТЫ ЧАС, ПЕРАД ВАМІ НОРМАН ОЗБАРН. ЖЫВЫ І ЗДАРОВЫ.
ЁН ВЫЙШАЎ З ЦЕНЯ, ПАКІНУЎ СВАЁ ДАБРААХВОТНАЕ ПУСТЭЛЬНІЦТВА, КАБ РАСПАВЕСЦІ ПРА ТУЮ ПАМЯТНУЮ НОЧ, ШТО РАЗБУРЫЛА ЯГО ЖЫЦЦЁ.
І ПРА ТОЕ, ЯК ЁН ЗБІРАЕЦЦА ВЯРНУЦЦА ДА БЫЛОГА ЖЫЦЦЯ І ЎЗНАВІЦЬ СВАЮ КАМПАНІЮ.
ТАКІМ ЧЫНАМ, НОРМАН ОЗБАРН, ДЗЕ ВЫ БЫЛІ ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС?
ВЫБУХ НА НАШАМ ГАЛОЎНЫМ ПРАДПРЫЕМСТВЕ РАСПЛЮШЧЫЎ МНЕ ВОЧЫ.
МЫ НЕ ПРОСТА СТРАЦІЛІ ГРУПУ САМЫХ ТАЛЕНАВІТЫХ І ВЫБІТНЫХ НАВУКОЎЦАЎ АМЕРЫКІ... ПАД ПАГРОЗАЙ АКАЗАЛАСЯ ЖЫЦЦЁ МАЙГО АДЗІНАГА СЫНА.
НА ШЧАСЦЕ, НАМ АБОДВУМ ПАШАСЦІЛА ЗАСТАЦЦА Ў ЖЫВЫХ ПАД ЧАС ВЫБУХУ.
ВЫ ВЕРЫЦЕ Ў ТОЕ, ШТО ВЫБУХ БЫЎ НЕВЫПАДКОВЫМ?
Я Ў ГЭТЫМ УПЭЎНЕНЫ.
Я ЛІЧУ, ШТО МОЙ КАНКУРЭНТ - ДЖАСЦІН ХАМЕР - БЫЎ НЕЙКІМ ЧЫНАМ ДАТЫЧНЫ ДА СМЕРЦІ МАЁЙ ЖАНЫ І ВЫПАДКУ НА МАІМ ЗАВОДЗЕ.
МНЕ ПРЫЙШЛОСЯ ХАВАЦЦА, КАБ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ І СЫНА... І ЧАКАЦЬ, ПАКУЛЬ ПРАДСТАЎНІКІ ЎЛАДЫ СХОПЯЦЬ ГЭТАГА ЗЛОДЗЕЯ.
І ВОСЬ ПАСЛЯ СМЕРЦІ ДЖАСЦІНА ХАМЕРА...
ТАК.
...ЦЯПЕР ВАМ УЖО НЯ ТРЭБА ХАВАЦЦА.
ГЭТА ТАК.
ЯК ЛЮБЫ БАЦЬКА, Я ЛІЧУ, ШТО МОЙ СЫН ГОДНЫ САМАГА ЛЕПШАГА.
І Я ЛІЧУ, ШТО НАШ СВЕТ ЗАСЛУЖЫЎ ТАГО, КАБ МЫ ЗРАБІЛІ ЯГО ЛЕПШЫМ ДЗЕЛЯ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ.
Я ПАЙДУ...
А ШТО НАКОНТ ПАВЕДАМЛЕННЯ ПРА ТОЕ, ШТО ОТТА АКТАВІЎС, ДОКТАР АКТОПУС, МЕЎ АДНОСІНЫ ДА СМЕРЦІ ДЖАСЦІНА ХАМЕРА...
ВЫ БАЧЫЛІ ТОЕ Ж, ШТО І Я...
АЛЕ ЁН ПРАЦАВАЎ НА ВАС.
ТАК, АЛЕ Я НЕ СУСТРАКАЎСЯ З ІМ ПАСЛЯ ТАГО ЖУДАСНАГА ВЫПАДКА, У ВЫНІКУ ЯКОГА ЁН БЫЎ ЗНЯВЕЧАНЫ.
Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО З ІМ ЗДАРЫЛАСЯ... АЛЕ, ЛІЧУ, ЁН ПРЫЙШОЎ ДА ТОЙ ЖА ВЫСНОВЫ, ШТО І Я, АБ ТЫМ, ШТО ХАМЕР БЫЎ ЗАМЕШАНЫ Ў ЗАМАХУ НА НАС.
ШТО ЗДАРЫЛАСЯ, ПІТАР?
НЯХАЙ ІДЗЕ, ГАРЫ.
АЛЕ...
ТЫ ЎБАЧЫШ ЯГО ЗАЎТРА.


ЗАРАЗ.


ЯК ВАМ ПАДАРОЖЖА НА ЛІМУЗІНЕ, РОК-ЗОРКА?


ГЛУПСТВА
ТЫ Ў ПАРАДКУ?
НЕ.
ТАБЕ НЕ СПАДАБАЛАСЯ Ў ГАРЫ?


ХММ...
МНЕ НЕ ТРЭБА БЫЛО НАСТОЙВАЦЬ НА ГЭТАЙ ПАЕЗДЦЫ.


ПРАБАЧ МЯНЕ ЗА СУБОТУ.
Я... Я НЕ ХАЦЕЎ ПАДМАНВАЦЬ ЦЯБЕ, ЦЁЦЯ МЭЙ.
НЕ ХАЦЕЎ.


ДОБРА, ДОБРА.
ГЭТА Ж ТВАЯ ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. БУДЗЕМ ЛІЧЫЦЬ, Я ЎСЁ ЗАБЫЛА.






ДОБРА.
ДОСЫЦЬ.
АХ ТЫ МОЙ МАЛЕНЬКІ.




ЯК ТЫ СЯБЕ АДЧУВАЕШ?
ММ. У МЯНЕ БЫЎ ДОЎГІ ДЗЕНЬ.
КАНЕШНЕ.


ТЫ ВЯЧЭРАЎ?


ОХ... БОЖА!
...ШТО МНЕ ЦЯПЕР РАБІЦЬ?


ДЗЫНЬ ДЗЫНЬ


ПІТАР? ГЭТА МЭРЫ.
ПАДЫМІ ТРУБКУ. КАЛІ МОЖАШ...


МЭРЫ?


ПІТАР...


ПРЫВІ-ТАННЕ...
НЕ ВЕДАЮ, НЕ ДУМАЮ.


ПРЫВІ-ТАННЕ...
УСЁ ЯШЧЭ ПАД АРЫШТАМ?
У ЧЫМ СПРАВА? ШТО АДБЫВАЕЦЦА? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ГАРЫ? ТЫ БЫЎ У ЯГО? ТАМ УСЁ ДРЭННА? ЁН ТАБЕ ШТО-НЕБУДЗЬ СКАЗАЎ?


ТЫ ПРЫЙДЗЕШ ДА МЯНЕ? ЦІ ЎЖО ПОЗНА?
УЖО АМАЛЬ АДЗІНАЦЦАЦЬ.
БОЖА, АЛЕ МНЕ ВЕЛЬМІ ТРЭБА ПАГАВАРЫЦЬ З ТАБОЙ.
ГЭТА... САПРАЎДЫ ЖУДАСНА...


ТУК ТУК


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
О, БОЖА...

ШТО?
ХТОСЬЦІ ГРУКАЕ!
КУДЫ?
ДЫК ТЫ Ў СКЛЕПЕ?

У МАЕ ДЗЬВЕРЫ.
ТАК.
ДУМАЮ, ШТО ГАРЫ.

ХТО ГЭТА?
У АДЗІНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН ВЕЧАРА?

О, БОЖА...


ПАЧАКАЙ...



ГВЕН?
А ТЫ КАГО ЧАКАЎ?
Я...
НЕ СУПРАЦЬ, КАЛІ Я СКОНЧУ З САБОЙ У ЦЯБЕ НА ГАЗОНЕ?
COLD!


ГВЕН. ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ?
МНЕ НЕКУДЫ ПАЙСЦІ.
ШТО ЗА ЖУДАСНЫЯ ДАСЛЕДВАННІ ТЫ ТУТ ПРАВОДЗІШ?
COLD!
BEEFCAKE
BEEFCA
BEEEFCAAKE!

Я ТАБЕ ПАТЭЛЮ.

НЯ ТРЭБА!
КЛИК


ПРАБАЧ, ШТО ПЕРАБІЛА РАЗМОВУ.

ШЫКОЎНЫЯ СПОДНІ.


ТАК. ТЫ МОЖАШ КАРЫСТАЦЦА ТЭЛЕФОНАМ, АЛЕ ЎЖО ВЕЛЬМІ ПОЗНА. ТАМУ...
НЕ, У МЯНЕ... У МЯНЕ ПРАБЛЕМЫ.
ЯКІЯ?
У МЯНЕ... У СКЛЕПЕ ДЗЕЎЧЫНА.
САПРАЎДНАЯ?
ШТО?


У ЦЯБЕ МЭРЫ ДЖЭЙН? ГЭТА ЎЖО ЗУСІМ НЕПРЫСТОЙНЫЯ ПАВО...


НЕ. ГЭТА ДЗЯЎЧЫНКА СА ШКОЛЫ... ГВЕН СТЭЙСІ. ЯНА... РАЗУМЕЕШ...
...ЯНА ПРЫЙШЛА ДА МЯНЕ НЕВЯДОМА АДКУЛЬ.
А Я НАВАТ НЕ... Я... ЯНА НОВАЯ Ў ШКОЛЕ.


ЯНА СКАЗАЛА, ШТО ЯЕ МАЦІ ЎЕХАЛА Ў ЧЫКАГА З НЕЙКІМ ХЛОПЦАМ, А ЯЕ БАЦЬКА НА ПРАЦЫ І... Я НЕ ВЕДАЮ.
ВІДАЦЬ, ЯНА ХОЧА ШТОСЬЦІ ЗРАБІЦЬ З САБОЙ. І Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО РАБІЦЬ.
ЯНА ЯШЧЭ ТАМ?


ТАК. ТАМ.


ДОБРА.
ТОЛЬКІ АПРАНІ ШТАНЫ.


О БОЖА!
УЯВІ САБЕ.
ПРОСТА... НЕВЕРАГОДНА!


КАЛІ ТЫ АПОШНІ РАЗ ЕЛА?
Я ЎЖО ЗАБЫЛА.
ДЗЯЎЧЫНЫ ПАВІННЫ ЕСЦІ.
Я КАЖУ ЁЙ ТОЕ Ж САМАЕ.


КАПІТАН СТЭЙСІ?
МЭЙ ПАРКЕР?
ДЗЯКУЙ, ШТО ПРЫГЛЯДЗЕЛІ ЗА ГВЕН.
ЯНА НЕЗВЫЧАЙНАЯ ДЗЯЎЧЫНА.


ПРАБАЧЦЕ ЗА ПЕРАШКОДЫ.
НІЧОГА. НЕ ЗВЯРТАЙЦЕ ЎВАГІ.
У КОЖНАГА БЫВАЮЦЬ НЕПРЫЕМНАСЦІ.
ІНАЧ... ЛІЧУ, ВЫ БЫ ЗАСТАЛІСЯ БЕЗ ПРАЦЫ.


САПРАЎДЫ...


ЯЕШНІ?

А ПОТЫМ ПРЫЙШОЎ ЯЕ БАЦЬКА – ПАЛІЦЭЙСКІ. І ЯНА ПАЧАСТАВАЛА ЯГО ЯЕШНЯЙ.
А ПОТЫМ ЁН І ЦЁЦЯ МЭЙ ПАЙШЛІ Ў СУСЕДНІ ПАКОЙ І АБ ЧЫМСЬЦІ РАЗМАЎЛЯЛІ... А Я ПАСНУЎ ПРАМА ЗА СТАЛОМ НА КУХНЕ, ПАКУЛЬ ГВЕН РАСКАЗВАЛА ПРА ТОЕ, ШТО ЧАЛАВЕК-ЛЁД – САМЫ ФАЙНЫ...
ТВАЯ ЦЁЦЯ ГАТАВАЛА ЯЕШНЮ СЯРОД НОЧЫ?
ТАК. ЯНА І НЕ НА ТАКОЕ ЗДОЛЬНА.
ХМ... ЯК ТЫ ЛІЧЫШ, ЧАМУ ЯНА ПРЫЙШЛА ДА ВАС?
НЕ ВЕДАЮ.
ТЫ... ТЫ ТАК І НЕ ПЕРАТЭЛІЎ.
СЛУХАЙ...
...МНЕ ТРЭБА РАСПАВЕСЦІ ТАБЕ ШТОСЬЦІ БОЛЬШ ВАЖНАЕ.
БАЧЫШ ШТО... МІНУЛЫМ ВЕЧАРАМ ДА ТАГО, ЯК УСЁ ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ, Я ЕЗДЗІЎ ДА ГАРЫ, І ГЭТА БЫЛО ПОЎНЫМ ШАЛЕНСТВАМ, БО...
ЭЙ, А ВОСЬ І МОЙ ЛЮБЫ СУПЕР-ГЕРОЙ!
ОЙ! ААЙ!


ШТО?
ТВОЙ ЗНАЧОК НА КУРТЦЫ.
ХА! ПРАБАЧ!
БАЧУ, ТАБЕ ЎЖО ЛЕПШ.

Я ЯК ВЫЦІСНУТАЯ ЦЫТРЫНА! ТЫ ШТО!
КАЛІ МЫ ЎЙШЛІ АД ЦЯБЕ, У НАС З ТАТАМ БЫЛА СУР'ЁЗНАЯ РАЗМОВА.
УСЁ БЫЛО ДОБРА, АЛЕ ЗАРАЗ Я ЯК ЗОМБІ!
Я ТАБЕ ПОТЫМ РАСКАЖУ (КАЛІ ТАБЕ ЦІКАВА), АЛЕ ЗАРАЗ Я ПРОСТА ХАЧУ СКАЗАЦЬ, ШТО ТЫ – ЦУДОЎНЫ, А ТВАЯ ЦЁЦЯ – НАОГУЛ ФАЙНАЯ.
Я ЁЙ ПЕРАДАМ, ТОЛЬКІ ІНШЫМІ СЛОВАМІ.
Я СУР'ЁЗНА. ЯНА ЛЕПШ УСІХ У ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ.


ТРЫМАЙСЯ ЗА ЯГО, МЭРЫ ДЖЭЙН.
ЁН – ЗОЛАТА.


ТЫ ЎЖО БАЧЫЛА ГАРЫ?
НЕ.
СЛУХАЙ, МНЕ ТРЭБА СКАЗАЦЬ ТАБЕ...


ПІТАР ПАРКЕР, КАЛІ ЛАСКА, ПРАЙДЗІЦЕ Ў ПАКОЙ 222. КАЛІ ЛАСКА, ПРАЙДЗІЦЕ Ў ПАКОЙ 222.
ДЗЯКУЙ.
ШТО ЯШЧЭ?
ММ... ТЫ МОЖАШ НА СЯКУНДАЧКУ ЗАТРЫМАЦЦА?
І ПРАПУСЦІЦЬ КАНТРОЛЬНУЮ?
ХМ...
ПАГУТАРЫМ ПАСЛЯ ЗАНЯТКАЎ. Я ЎЖО НЕ ПАД АРЫШТАМ.


МНЕ ТРЭБА БУДЗЕ ТАБЕ НЕШТА СКАЗАЦЬ.


ДЗЕНЬ ДОБРЫ.
МЯНЕ ЗАВУЦЬ ДОКТАР БРЭДЛІ. МЫ СУСТРАКАЛІСЯ ЎЖО.
КАЛІ ЛАСКА... СЯДАЙ.

ПАЧАКАЙЦЕ... ВЫ – ТАЯ ЛЕДЗІ З КАМІТЭТА, ТАК?
АЛЕ... У МЯНЕ НЯМА ЧАСУ ДЛЯ РАЗМОЎ. ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН ПАЧНЕЦЦА КАНТРОЛЬНАЯ.
НА ГЭТА СПАТРЭБІЦЦА ЎСЯГО НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН.
АЛЕ МНЕ САПРАЎДЫ... УСЁ ДОБРА. МНЕ НЕ ПАТРЭБНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ, ЯК ВЕСЦІ СЯБЕ ПАСЛЯ ТРАЎМЫ...
КАЛІ ЛАСКА, СЯДАЙ...

Я ЧУЛА, ШТО ОЗБАРН ВЯРНУЎСЯ Ў НЮ-ЁРК.
ТАК.
ТАК, ТАК, ТАК, АЛЕ...
ТЫ БЫЎ У ЯГО КВАТЭРЫ МІНУЛАЙ НОЧЧУ?


ОЗБАРН ПАКАЗВАЎ ТАБЕ СВАЕ НОВЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ?

ШТО ЎСЁ ГЭТА ЗНА-ЧЫЦЬ?

ПРОСТА АДКАЗВАЙ НА ПЫТАННІ, ПІТАР.

ШТО ГЭТА?

ЁН ПАГРАЖАЎ ТАБЕ? ЁН СКАЗАЎ, ШТО ВЕДАЕ ПРА ТОЕ, ШТО ТЫ – ЧА-ЛАВЕК-ПАВУК?



ПІТАР?
ТУТ ЁСЦЬ ХТОСЬЦІ ЯШЧЭ, ТАК?
ХТО ВЫ ТАКІЯ?
ШТО АДБЫ-ВАЕЦЦА?
ПІТАР?


Я ХАЧУ ВЕДАЦЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА!


ЦІ НЕ ЖАДАЕЦЕ ДАЛУЧЫЦЦА ДА НАС, СЭР?






ЧАС УЦЯКАЦЬ...
ПРАЦЯГ БУДЗЕ...